Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 560.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Аўторак, 30 чэрвеня 1998 г. № 69 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Стратэгічная дамова

**Сёння ў Маскве пачынаюцца кансультацыі экспертаў краінаў СНД пра перспектывы дамовы аб калектыўнай бяспецы.**

Як паведамілі нам у штаб-кватэры садружнасці, кансультацыі выкліканыя тым, што надыходзіць час для падаўжэння дзеяння гэтай дамовы, якая ўступіла ў сілу ў красавіку 1994 года тэрмінам на 5 гадоў. Нагадаем, што да калектыўнай бяспекі пад дахам Масквы дагэтуль не далучыліся тры краіны СНД — Туркменістан, Малдова і Украіна.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Бензін падаражэе

**Урад разглядае пытанне аб павелічэнні цэнаў на бензін і іншыя нафтапрадукты на 10%. Хутчэй за ўсё кошты ўзрастуць ужо з 1 ліпеня.**

Прычына ў тым, што істотна скараціліся пастаўкі нафты ў Беларусь: за нафту трэба плаціць валютай, а яе не хапае. Не дзіва, што ўрад трывожыцца: хутка спатрэбіцца шмат паліва на «бітву за ўраджай». І пакуль «бароцца» няма чым.

Таму, каб забяспечыць пастаўкі нафты, урад плануе шэраг мераў, адна з іх — павелічэнне коштаў на нафтапрадукты. У гэтым ёсць логіка: у параўнанні з суседнімі краінамі кошты бензіну на беларускіх аўтазапраўках у доларавым вылічэнні нашмат ніжэйшыя. Нават у Расіі, адкуль мы імпартуем нафту, бензін каштуе ў 1,5 — 1,7 раза больш.

Асаблівыя непрыемнасці чакаюць транзітных аўтамабілістаў. Абмяркоўваюцца планы, каб прадаваць нафтапрадукты ўладальнікам замежнага аўтатранспарту толькі за цвёрдую валюту.

**А.С.**

## Мытнікаў пасадзілі

**У Гродне завяршыўся гучны судовы працэс над супрацоўнікамі мытні. Восем чалавек апынуліся за кратамі — за хабарніцтва.**

Самае цікавае, што пагарэлі якраз тыя, хто павінен быў выкрываць хабарнікаў — начальнік інспекцыі па асабовым складзе Патапаў і ягоны падначалены Марчук. Ім далі адпаведна 8 і 5 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Астатнія ўдзельнікі злачыннай групоўкі таксама атрымалі ад 7,5 да 3 гадоў.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

**КАДРЫ**



*Асаблівасць Мінска: міліцыянты на кожным кроку.*

*Скандалам завяршыўся выступ прэзідэнта Лукашэнкі на эканамічным форуме ў Кран-Мантана*

## Дыктатар, на выхад!



Як паведамляюць замежныя СМІ, Аляксандр Лукашэнка спазніўся на паседжанне форуму на 20 хвілінаў, і таму час для ягонага выступу быў скарочаны, што вельмі абурыла беларускага прэзідэнта, і ён пачаў нават спрачацца са старшынёю. Адзін з удзельнікаў форуму назваў Лукашэнку дыктатарам і заявіў: *«Ты скончыш, як усе дыктатары»*. У гэты момант Рыгоравіч падхапіўся са свайго месца і са словамі: *«Вось яна, вашая дэмакратыя!»* — дэманстратыўна пакінуў залу паседжанняў. Выскачыўшы ў фае, прэзідэнт Беларусі даў кароткую прэс-канферэнцыю. Ён сказаў, што абураны недэмакратызмам арганізатараў форуму і заявіў, нібыта яны (у прыватнасці, старшыня форуму) выканалі сацыяльны заказ амерыканцаў, якія, маўляў, загадалі «насаліць» беларускаму прэзідэнту.

**Б.П.**

## Масква націсне на Мінск?

Адносіны Беларусі з заходнімі краінамі канчаткова зайшлі ў тупік. Гэта стала зразумела пасля заяваў прэзідэнта А.Лукашэнкі, зробленых напярэдадні і падчас паездкі ў Швейцарыю. Перад адлётам у Кран-Мантана Лукашэнка заявіў наконт канфлікту з дыпламатамі: *«Няхай кансультуюцца, але ведаюць, што іх вяртанне ў нашую краіну магчымае толькі з нашай згоды»*. У самой Швейцарыі беларускі прэзідэнт выказваўся больш стрымана, маўляў, нікуды паслы не дзенуцца, вернуцца ў Мінск, *«бо тут іх працоўныя месцы»*.

Якімі могуць быць далейшыя крокі Захаду ў дачыненні да Мінска? І якой увогуле палітыкі адносна Беларусі варта чакаць ад вядучых краінаў свету пасля «драздоўскага канфлікту»? З гэтымі пытаннямі карэспандэнт нашай газеты звярнуўся да некаторых беларускіх палітыкаў.

Дэпутат Вярхоўнага Савета **Анатоль Лябедзька** упэўнены, што заходнія дзяржавы больш не даверацца заявам аб «кампраміісе» і зараз будуць чакаць ад Лукашэнкі канкрэтных крокаў: *«Пакуль «Драздам» не будзе вернуты былы статус, паслы з «кансультацыяў» не вернуцца»*, — мяркуе Анатоль Лябедзька. Ён лічыць, што Беларусь чакае не толькі дыпламатычная блакада, але могуць быць ужытыя і рычагі эканамічнага ўздзеяння праз Маскву. *«Не выключана, што адной з умоваў атрымання Расіяй стабілізацыйнага крэдыту ў некалькі мільярдаў доляраў стане патрабаванне жорсткай пазіцыі адносна Беларусі»*, — кажа дэпутат.

У тым, што расчышчаць «драздоўскія канюшні» прыйдзецца не толькі Мінску, але і Маскве, упэўнены і намеснік старшыні БНФ **Вінцук Вячорка**. Ён адзначае, што скандал быў яўна на карысць тым сілам у Расіі, якія «спяць і бачаць», каб дзве краіны аб'ядналіся ў адну. *«З ад'ездам замежных паслоў з Мінска Беларусь зноў апынулася ў сітуацыі, калі кантакты з астатнім светам магчымыя толькі праз Маскву»*, — гаворыць Вінцук Вячорка. Ён, аднак, адзначае і станоўчы момант: у выніку канфлікту Захад пазбавіўся апошніх ілюзіяў наконт беларускага рэжыму. *«Спадзяюся, зараз сцішацца галасы тых заходніх палітыкаў, якія заклікалі пайсці на прызнанне лукашэнкаўскай канстытуцыі і нават прапаноўвалі правесці выбары ў цалкам недэмакратычных умовах. Цяпер яны пабачылі, ці можна аб нечым дамовіцца з Лукашэнкам»*, — перакананы кіраўнік БНФ. Ён мяркуе, што Захад будзе ціснуць на Лукашэнку праз Маскву, бо ўсе іншыя каналы ўздзеяння амаль вычарпаныя.

Палітолаг **Аляксандр Патупа** бачыць у «драздоўскім канфлікце» прыкмету змовы супраць Лукашэнкі ў ягоным асяроддзі. Ён выстройвае такі ланцужок падзеяў: у пачатку года Лукашэнка выставіў сябе на смех у Нагана, потым скандал з пасламі, нарэшце, яго ўжо ў вочы назвалі дыктатарам у Швейцарыі. *«Прэзідэнта, як пацана, яўна падстаўляюць. Нехта ў ягоным асяроддзі ўжо думае аб тым, як жыць без Лукашэнкі»*, — упэўнены Патупа. На ягоную думку, заказчыкі гэтых дзеянняў знаходзяцца ў Маскве, якой надакучыла цярпець выбрыкі «малодшага брата» ды яшчэ і аплачваць ягоныя эксперыменты. Патупа лічыць, што *«Масква будзе ўсё больш настойліва патрабаваць ад Беларусі разлічыцца за даўгі. Кірыенка прапануе разлічыцца маёмасцю. Лукашэнка будзе і далей адмаўляцца, таму абвастрэнне адносінаў з Расіяй непазбежнае»*, — лічыць А.Патупа. На яго думку, трэба чакаць таксама паступовага змяншэння аб'ёмаў гуманітарнай дапамогі з боку Еўропы, у тым ліку і па чарнобыльскіх праграмах.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Палітрукі вяртаюцца

**Гомельскі аблвыканкам вырашыў, што на буйных прадпрыемствах і ў саўгасах абавязкова павінны быць палітрукі.**

На ўсіх прадпрыемствах, дзе працуе больш як 300 чалавек, а таксама ў калгасах і саўгасах, у якіх налічваецца больш за 150 работнікаў, будуць уведзеныя пасады намеснікаў кіраўнікоў *«па сацыяльных пытаннях і інфармацыйна-прапагандысцкай рабоце»*. «Першай ластаўкай» стане Калінкавіцкі раён, а да канца наступнага года палітрукі павінны з'явіцца ўжо ва ўсёй вобласці. План прапагандысцкіх мерапрыемстваў будуць распрацоўваць мясцовыя ўлады, якія вызначаць сістэму, формы і метады працы са СМІ, грамадскімі аб'яднаннямі і палітычнымі партыямі для фарміравання «правільнай» грамадскай думкі. Натуральна, што плаціць зарплату прапагандыстам будуць з унутраных сродкаў прадпрыемстваў і калгасаў.

*БелаПАН*

## Палата

***Сёння завяршаецца сесія прэзідэнцкага парламента. У апошні дзень працы «палатнікі» разгледзяць законапраект «Аб псіхіятрычнай дапамозе». Вельмі дарэчы.***

## Апытанне

***Амаль палова апытаных маладых жыхароў сталіцы далучаюцца да алкаголю і наркотыкаў «ад няма чаго рабіць». 20% мінчукоў ва ўзросце 18—30 гадоў прызналіся, што спрабавалі наркотык хаця б раз у жыцці. Трэць апытаных сказалі, што рэгулярна ўжываюць алкагольныя напоі.***

## Маштабы

***У падрыхтоўцы і правядзенні ваеннага парада, які пройдзе ў «дзень рэспублікі» 3 ліпеня ў Мінску, будзе задзейнічана больш за 4 тысячы чалавек і 295 адзінак тэхнікі — 37 гусенічнай і 258 колавай.***

## Гандаль

***Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў гэтым годзе з'яўляюцца Расія (61,9% ад усяго аб'ёму знешнегандлёвага абароту), Украіна (7,2%), Германія (5%), Польшча (2,7%), Літва (2%), а таксама ЗША і Італія (па 1,6%). Яры гэтым назіраецца тэндэнцыя да павелічэння гандлю з Расіяй і зніжэння долі іншых партнёраў.***

## Кожнай вёсцы – свой герб

**Кожны населены пункт Гродзенскай вобласці павінен мець свой герб. Так вырашыла абласная вертыкаль.**

У адпаведнасці з рашэннем Гродзенскага аблвыканкама не толькі гарады, але і іншыя населеныя пункты вобласці будуць мець гербы. Мясцовым уладам на стварэнне, выраб і размяшчэнне ў адпаведных месцах гербавых знакаў адведзена 5 гадоў: татальную "геральдызацыю" загадана завяршыць да 2004 года.

Пры гарадскіх і раённых выканкамах цяпер ствараюцца спецыяльныя камісіі, якія павінны працаваць у цесным кантакце з геральдычнай службай Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве. Пры распрацоўцы гербавай сімволікі рэкамендавана *«улічваць народныя традыцыі і гісторыка-культурную спадчыну населеных пунктаў»*.

*БелаПАН*

**Наступны нумар газеты НАВІНЫ (з TV-праграмай) выйдзе ў чацвер, 2 ліпеня.**

## Дубко хоча ў горад

**У старшыні Гродзенскага аблвыканкама Аляксандра Дубко цяпер, мяркуючы па ўсім, будзе ажно два дамы.**

Першы — вялікі, двухпавярховы, у прыгарадзе Гродна, у якім ён жыве ўдвух з жонкай. Другі — прыблізна 100 квадратных метраў — ён будуе ў цэнтры горада.

Гарадскія ўлады выдзелілі яму зямельны пляц яшчэ летась. Як сказана ў рашэнні, «для пабудовы жылога дома ў пажыццёвую спадчыну». Участак, праўда, невялікі — усяго 9 сотак. Але ж гэта ў межах старога горада, дзе ніколі і нікому ўчасткі для прыватнага дома не выдзяляліся. Мала таго: А.Дубко размесціцца сярод генеральскіх катэджаў, пабудаваных яшчэ за польскім часам. Ягоным суседам будзе сённяшні камандзір армейскага корпуса.

Цікава, што наважыўся распачаць будоўлю кіраўнік Гродзенскай абласной вертыкалі толькі пасля таго, як прэзідэнт выдаў яму медаль «За отличие в охране государственной границы».

Ірына КАЗЛОВА

## Прафсаюзы маршыруюць

**Акцыю пратэсту супраць зніжэння жыццёвага ўзроўню і росту цэнаў правялі ў мінулы чацвер у Мінску актывісты незалежных прафсаюзаў.**

На плошчы Я.Коласа, адкуль пачалося прафсаюзнае шэсце, сабралася прыкладна 500 чалавек. Адтуль дэманстранты па тратуарах праспекта Скарыны прайшлі да Опернага тэатра, дзе адбыўся кароткі мітынг. Незалежныя прафсаюзы патрабуюць ад прэзідэнта і ўрада падвысіць да верасня мінімальную зарплату ў 10 разоў (да 2,5 мільёна рублёў), спрасціць падатковую сістэму дзеля стымулявання вытворчасці і прадаставіць прафсаюзам свабодны доступ да дзяржаўнага тэлебачання і радыё.

Язэп СІНІЦКІ

## У студэнты без экзаменаў

**Каля 200 беларусаў з-за мяжы навучаюцца цяпер у вышэйшых навучальных установах нашай краіны.**

Гэта ў асноўным прадстаўнікі беларускай дыяспары Польшчы (каля 150 чалавек), а таксама беларусы з Казахстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Узбекістана і Эстоніі. Як паведамілі ў міністэрстве адукацыі, юнакі і дзяўчаты вучацца ў асноўным у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, Брэсцкім політэхнічным інстытуце, Гродзенскім і Мінскім медычных інстытутах. *«Статус гэтых маладых людзей нічым не адрозніваецца ад нашых студэнтаў: яны навучаюцца за кошт дзяржавы, атрымліваюць стыпендыю і забяспечваюцца інтэрнатам»,* — адзначыў прадстаўнік міністэрства. Адзіная льгота для беларусаў замежжа ў тым, што яны паступаюць у нашыя ВНУ па-за конкурсам і без традыцыйных уступных экзаменаў.

БелаПАН



*Даўно не бачыліся!*

## У зоне п'юць па-чорнаму

**Газета «Экалагічны веснік» апублікавала вынікі даследавання, з якога вынікае: чым вышэйшы ўзровень радыяцыйнага забруджвання, тым больш людзей на гэтай тэрыторыі пакутуюць на алкагалізм.**

Так, у тых раёнах, дзе ўзровень радыяцыі найбольш высокі, каля 30% жыхароў — алкаголікі. Сярод перасяленцаў, якія былі вымушаныя пакінуць свае родныя вёскі і выехаць у чысцейшыя мясцовасці, алкагольную залежнасць маюць 26%. У так званай зоне «неабавязковага адсялення», дзе ўзровень радыяцыі паводле афіцыйных нормаў не асабліва пагражае здароўю людзей, алкаголікаў каля 20%.

Спецыялісты адзначаюць, што алкагалізм — галоўны фактар фізічнага выраджэння і духоўнай дэградацыі людзей, якія жывуць у «чарнобыльскіх» раёнах.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

## Новая калектывізацыя

**У Краснапольскім раёне Магілёўскай вобласці мясцовая інспекцыя тэхнагляду знайшла ў прыватных гаспадарках 32 «незарэгістраваныя транспартныя сродкі». Чыноўнікі хочуць канфіскаваць у сялян іх «железных коней».**

Гэта ў асноўным саморобныя трактары, якія вяскоўцы зрабілі сваімі рукамі. Гаспадары кажуць, што сабралі іх з таго металалому, які валяецца ў кожным калгасе на палях-дарогах. Але інспектары заяўляюць, што людзі павінны былі спачатку заплаціць дзяржаве за металалом і толькі пасля гэтага рабіць з ламачча машыны.

У выніку цяпер у Краснапольскім раёне можа адбыцца чарговая «калектывізацыя». У людзей збіраюцца канфіскаваць машыны і перадаць іх у калгасы.

## Школьнікаў зноў запішуць у цімураўцы

**У Беларусі сёння на 160 працаздольных людзей прыпадае 100 пенсіянераў, — паведаміла міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель у Магілёве на семінары для работнікаў сацыяльных службаў.**

Калі дэмаграфічная тэндэнцыя захаваецца, то ў 2016 годзе прапорцыя стане 1 да 1. Інакш кажучы, кожнаму давядзецца працаваць «за дваіх». Сёння дзяржава не можа даць старым таго, што яны заслугоўваюць, як гэта робіцца ў цывілізаваным свеце. Сродкаў катастрафічна не хапае, і міністр бачыць нейкае выйсце ў далучэнні да сацыяльнай працы моладзі. Напрыклад, міністэрства спадзяецца аднавіць «цімураўскі рух». Тое, што гэты рух у савецкія часы быў пераважна папяровым, чыноўнікі не ўлічваюць.

Увогуле, перакласці сур'ёзную дзяржаўную справу на нетрывалыя плечы дзяцей — значыць заваліць яе. Такім, відаць, і будзе вынік.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

# Гарсавет – за законнасць. Пракуратура – супраць?

*«Упершыню за апошнія два гады прадстаўнікі палітычнай апазіцыі, незалежныя журналісты і праваабаронцы атрымалі афіцыйную трыбуну»,* — падкрэсліў дэпутат Алег Волчак, падводзячы вынікі абмеркавання ў Мінскім гарсавеце пытання аб парушэннях законнасці падчас вулічных акцыяў.

Разгляд гэтага пытання ініцыявала дэпутацкая група «Статус», у якую ўваходзяць людзі самых розных палітычных перакананняў. Аб'ядноўвае іх адзінае: яны выступаюць за абарону законнасці. Здавалася б, такую бясспрэчную пазіцыю павінны падзяляць усе дэпутаты, але ў нашых умовах, на жаль, гэта не так проста.

Уладзімір Даўжэнка, старшыня камісіі па галоснасці і праваправарадку (якая, па ягоных словах, *«уладам нашай краіны абсалютна непатрэбная»*), расказаў пра вялікія цяжкасці, з якімі сутыкнуўся гарсавет пры разглядзе згаданага пытання. *«Быў пастаянны ціск, былі тэлефанаванні з адміністрацыі Лукашэнкі, і старшыня гарсавета казаў нам, што, маўляў, палітычная сітуацыя не дазваляе засяроджвацца на тым, што міліцыянты парушаюць законнасць»,* — паведаміў Даўжэнка.

Рашэнне Мінгарсавета з'яўляецца для міліцыі і пракуратуры не больш чым рэкамендацыяй. *«Мы можам толькі ўносіць канрэкацыйку ў дзеянні выканаўчай улады ў горадзе»,* — адзначыў старшыня групы «Статус» Ігар Радзюкевіч. Так, гарсавет рэкамендаваў пракуратуры *«правесці праверку фактаў парушэння правоў грамадзян супрацоўнікамі міліцыі»*. *«Я як юрыст упэўнены, што гэтыя праверкі пры цяперашняй сітуацыі ні да чаго не прывядуць,* — кажа А.Волчак, які ўзначальваў дэпутацкую камісію па падрыхтоўцы гэтага пытання. — *Пакуль мы дасягнулі толькі таго, што звярнулі ўвагу на парушэнні законнасці і прымусілі службовых асобаў даваць адказ».* Але ж гэтага мала.

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

## Аўтапрабег ад Леніна да Леніна

**На мінулым тыдні з Мінска вырушыў аўтапрабег вакол Беларусі, арганізаваны рэдакцыяй газеты «Мир моторов».**

Першым абласным горадам на шляху стаў Гродна, дзе ўдзельнікі знаходзіліся ў пятніцу. Апошнім будзе Віцебск. У складзе кавалькады шэсць аўто. Два «Рэно» і адна «Шкода» — навюткія, толькі з аўтасалонаў. Ёсць яшчэ ўжываны «Вольва» і мікрааўтобус «Мерседэс», у ім возяць газеты, якія раздаюць цікаўным гледачам. Але самы адметны — аўтамабіль «Аўдзі», расфарбаваны міліцэйскай сімволікай. Гэтая машына абкатвалася ў мінскім абласным спецатрадзе «Страла». Аўто вельмі добрае, але МУС не мае на яго грошай. За 3.500 долараў (а за столькі нашая міліцыя купляе з завода новыя «Опелі» нельга было б набыць нават ужываную мадэль гэтага «Аўдзі», паведамілі карэспандэнту НАВІНАЎ удзельнікі прабегу.

Ва ўсіх абласных гарадах шэсць аўтамабіляў з Мінска спыняюцца на пляцы каля помніка Леніну, на што трэба браць дазвол у гарадскіх уладаў. Прабег прысвечаны 3 ліпеня.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

## Няпоўная алкагольная манаполія

**У сераду дэпутаты палаты прадстаўнікоў прынялі закон «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі». Фактычна ўводзіцца дзяржаўная манаполія на выраб спіртнога.**

Цяпер дзяржава не толькі будзе выдаваць ліцэнзіі на выраб алкаголю, але і абмяжоўваць вытворчасць, устанаўліваць аб'ёмы экспарту-імпарту, рэгуляваць гандаль і цэны.

Праўда, дзеянне законапраекта не распаўсюджваецца на напоі моцнасцю да 7 градусаў (сюды адносяцца большасць гатункаў піва і газаваныя напоі тыпу «джын-тонік», якія ў апошні час шырока з'явіліся на рынку). Дэпутаты таксама ласкава дазволілі беларусам вырабляць у хатніх умовах віно, настойкі і лікёры — але толькі калі гэтае пітво прызначаецца для ўнутрысямейнага карыстання.

Увядзенне дзяржаўнай манаполіі на вытворчасць і рэалізацыю алкагольнай прадукцыі не распаўсюджваецца на прадпрыемствы, якія атрымалі ліцэнзію да ўступлення гэтага закона ў сілу, хаця некаторыя дэпутаты настойвалі на татальнай нацыяналізацыі вытворчасці спіртнога.

БелаПАН

## Клін клінам, вандала вандалам?

**На могілках у Гродне невядомыя злачынцы ўчынілі акт вандалізму: пашкодзілі 81 надмагільны помнік і 9 крыжоў. Гарвыканкам выдаў спецыяльны зварот да гарадской моладзі.**

Улады прызнаюць, што ў Гродне пастаянна расце злачыннасць сярод падлеткаў. Пры гэтым чыноўнікі бяруцца «лячыць» моладзь на «станоўчых гістарычных прыкладах». Аднак, з гістарычнай памяццю ў начальства не ўсё ў парадку. У звароце моладзі нагадваюць, што «вузкія вулачкі нашага горада памятаюць крокі Пятра І» і што тут рускія палкі рыхтаваліся да Паўночнай вайны. Між тым вядома, як гэты сам цар Пётр забіваў у нашых храмах беларускіх святароў і паліў самі храмы. Дзіўная логіка: гарвыканкам вырашыў вучыць адных вандалаў на прыкладзе другога вандала.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

*БЕЛАРУСЬ – РОССИЯ*

# Гибрид

## *Москва слезам не верила. Поверит ли теперь?*

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Сессия парламентского собрания Союза Беларуси и России, состоявшаяся в начале мая в Гомеле, приняла проект закона, согласно которому планируется создать союзное казначейство и до 2002 года ввести единую денежную единицу.

На наш взгляд, более неподходящее время для такого политического шага выбрать было практически невозможно. Ему, с одной стороны, предшествовал срыв в штопор белорусского рубля, а с другой, о грядущей «дружбе валютами» было заявлено на фоне усиления нестабильности финансовых рынков России, правительство которой для поддержки российского рубля вынужденно обратилось к золотовалютному запасу, а «плохой мальчик» Чубайс был отправлен на Запад с задачей выбить кредиты.

### Брать или не брать?

Это значит, что собственных резервов у России не очень много, финансовая ситуация продолжает ухудшаться, правительство вынужденно принимает на себя дополнительные обязательства, несоизмеримые с валютными резервами Центробанка. Деньги Запад, скорее всего, даст. Этому, в частности, поспособствует МВФ, несущий определенную моральную ответственность за судьбу российской реформы, которая, в случае провала, поставит крест на его профессиональной репутации. Но внешний долг надо будет обслуживать и, чем дальше, тем платить больше.

Но «брать или не брать» — так проблема не ставится. «Брать» надо немедленно (если дадут), потому что налоговые поступления падают, объем взаимных неплатежей предприятий нарастает, растут долги государства и с ними социальная напряженность. Надо «брать» с тем, чтобы получить время для реальных подвижек к лучшему, для обеспечения роста собственных ресурсов.

Поэтому-то Ельцин и объявил «новый курс» — антикризисную программу, которую предложил думцам обсудить и принять в срочном порядке, иначе «последуют другие меры». Как бы там ни было, но в любом случае Россию ждут нелегкие времена и всякие резкие политические движения, пусть даже и объединительные, становятся недопустимой роскошью. Тем более, что возможности федерального правительства падают, а сепаратизм субъектов федерации нарастает. А вдобавок, того и гляди грядет новая, теперь уже междуусобная кавказская война, которая может лишить перспективы все усилия.

Конечно, нам не привыкать к экспериментам по скрещиванию особей различных видов с целью получения продуктивного потомства. Но пернатых с млекопитающими спаривать, кажется, никто не пытался, тем более, что орел — хищник, в нашем случае, двуглавый, а заяц — жалкий грызун, которого при их случайной встрече не всегда спасают и быстрые ноги. Тем не менее, «скрещиватели», как видим, находятся.

*Літва*

## Адамкус не баіцца радыяцыі

### *Але Літва збіраецца зачыніць Ігналінскую АЭС да 2005 года*

Гэтыя намеры Літвы ў чарговы раз пацвердзіў прэзідэнт Валдас Адамкус, сустракаючыся на мінулым тыдні ў Вене з кіраўніцтвам МАГАТЭ (Міжнароднага агенцтва па ядзернай энергіі). Больш за 80% электраэнергіі, якую спажывае Літва, выпрацоўваецца на Ігналінскай АЭС, і адмовіцца ад ядзернай энергетыкі за кароткі тэрмін немагчыма, падкрэсліў Адамкус. Аднак да канца 1998 года будзе распрацаваная нацыянальная канцэпцыя энергазберажэння і выкарыстання альтэрнатыўных крыніцаў энергіі, так што Ігналінская АЭС, якая, дарэчы, знаходзіцца ў чатырох кіламетрах ад беларускай мяжы, павінна стаць апошняй атамнай станцыяй у гісторыі Літвы.

*«А сёння Ігналінская АЭС працуе нармальна, баяцца няма чаго. Калі б я сумняваўся ў гэтым, то не прыехаў бы жыць у Літву з Чыкага»,* — запэўніў Адамкус.

## Літва рыхтуе патроны

**Урад Літвы збіраецца ўзяць у адным з французскіх банкаў крэдыт у 74 мільёны літаў (18,5 млн. долараў) дзеля стварэння ўласнай вытворчасці патронаў.**

Цяпер Літва купляе патроны ў Ізраілі, Чэхіі, Румыніі ды іншых краінах. Сваё прадпрыемства, якое будзе размешчанае ў Каўнасе і пачне дзейнічаць праз пару гадоў, будзе выпускаць рознакаліберныя патроны не толькі для пісталетаў і аўтаматаў, але і для кулямётаў. Як мы ўжо паведамлялі, нядаўна ў Вільні дэманстраваліся ўзоры распрацаваных літоўскімі спецыялістамі аўтаматаў, якія, па словах экспертаў, не толькі адпавядаюць стандартам *NATO*, але і пераўзыходзяць знакаміты УЗІ. Іх серыйны выпуск літоўцы могуць наладзіць за два-тры месяцы.

*Партугалія*

## Рэферэндум не даў вынікаў

**На мінулым тыдні Партугалія ўпершыню ў гісторыі краіны праводзіла рэферэндум — па праблеме абортаў. Пытанне засталося нявырашаным: у галасаванні ўзялі ўдзел толькі 30% выбаршчыкаў.**

Нацыянальная выбарчая камісія паведаміла, што большасць партугальцаў выказалася супраць лібералізацыі абортаў. На абмеркаванне выносілася пытанне, ці можна дазволіць аборты па працягу першых дзесяці тыдняў цяжарнасці.

Праблема абортаў цяпер апынулася ў цэнтры палітычнай барацьбы. Так, прэзідэнт Партугаліі Жоржы Сампаю выступае за лібералізацыю закона. Прэм'ер-міністр Антоніу Гутэрэс заяўляе, што ён адданы каталік і таму катэгарычна супраць абортаў у прынцыпе.

Партугалія ўвогуле каталіцкая краіна, касцёл займае тут вельмі моцныя пазіцыі ў грамадстве. Палітычныя аглядальнікі адзначаюць, што нізкая актыўнасць выбаршчыкаў па праблеме абортаў тлумачыцца ў значнай ступені і ўплывам касцёлу: чалавек не мае права вырашаць пытанні жыцця і смерці — гэта Божае.

Цяпер гэтым пытаннем ізноў зоймецца парламент. На сённяшні дзень аборты ў Партугаліі дазволеныя толькі ў выпадках, калі цяжарнасць пагражае жыццю жанчыны або пачалася ў выніку згвалтавання. За незаконны аборт кабетам пагражае тры гады турмы.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

*Россия*

## На какие деньги живет президент

### *Российская Госдума в очередной раз подняла вопрос о содержании Бориса Ельцина и его аппарата*

Согласно официальным данным, оклад президента России составляет 10 тысяч рублей в месяц, а декларированный годовой доход Бориса Ельцина за 1997 год составил 1.950.324,3 деноминированных рубля (более 35 тыс.долларов).

Зарплата личной охраны президента, состоящей из 44 человек, в среднем составляет около 5 тысяч рублей в месяц на каждого. Обслуживающий персонал резиденции в Кремле, а также государственных резиденциях «Горки-9» и «Русь» получает в среднем примерно по 1,6 тысячи рублей в месяц. Средняя заработная плата сотрудников президентской пресс-службы 2-2,5 тысячи рублей в месяц, примерно столько же зарабатывают и работники аппарата в администрации президента.

В личном пользовании Бориса Ельцина квартира в Крылатском площадью 323,4 квадратных метра по договору жилищного найма, в которой вместе с ним и его супругой прописаны дочь



Татьяна, зять Леонид Дьяченко и их дети Борис и Глеб. Президент самостоятельно оплачивает свое проживание в квартире, а также приобретение личных вещей и одежды.

Кроме того, Борис Ельцин является собственником земельного участка в Московской области площадью 4 гектара, выкупленного в 1995 году, и дачи площадью 452 квадратных метра.

Все, что касается поездок и визитов президента по стране и за ее пределами, обеспечивается силами и средствами Управления делами президента и Федеральной службы охраны. Это самолеты Ту-134, Ту-154, Ил-96, вертолеты Ми-8, принадлежащие ГТК «Россия», а также бронированные автомобили представительского класса марки «ЗИЛ» и «Мерседес-Бенц».

Все эти сведения не являются государственной тайной и безо всяких проверок доступны любому интересующемуся гражданину России. Государственная дума подняла вопрос о содержании главы государства и его соратников, как всегда, в политических целях, тем более что и сами депутаты давно и с большим удовольствием пользуются благами, предоставляемыми госчиновникам и народным избранникам. При этом депутаты имеют гораздо большие привилегии, по сравнению, скажем, с чиновниками из Кремля.

**Наталья КОНСТАНТИНОВА**

*Куба*

## Товарищи и господа

**Кубинская партийная газета «Гранма» опубликовала большую статью в защиту революционного и демократичного обращения «компаньеро», что означает «товарищ». Как выяснилось, в последнее время кубинцы все чаще в общении предпочитают слово «господин».**

«Давайте продолжать называть друг друга товарищами. К чему отказываться от обращения «компаньеро», отражающего социальные процессы, благодаря которым мы стали чувствовать себя более близкими и равными?» — пишет «Гранма».

Однако в обществе, похоже, доминирует другая тенденция. «На профсобрании я, может, и компаньеро, но в валютном магазине, извините, я — сеньор», — приблизительно так рассуждают большинство кубинцев. После того как в 1993 году кубинским гражданам разрешили иметь на руках валюту, а в экономике начали постепенно внедрять элементы рынка, социальное расслоение на острове Свободы стало реальностью, которую признают даже официальные идеологи. Все общество оказалось разделено на две большие группы: тех, кто так или иначе имеет доступ к валюте, и тех, кто этой привилегии лишен. Ведь любой мало-мальски приличный товар можно купить только в долларовом магазине, торговые учреждения, отоваривающие за кубинские песо, встречают посетителей пустыми прилавками.

Средняя зарплата кубинца по реальному обменному курсу не дотягивает и до 20 долларов. Однако за хорошими ходовыми товарами в валютных магазинах моментально выстраивается очередь. По данным Экономической комиссии ООН, в 1996 году кубинские эмигранты, большинство из которых обосновались в США, перевели родственникам и друзьям на острове около 800 млн. долларов. В прошлом году, по предварительным оценкам, поток такой прямой финансовой помощи еще больше увеличился.

Нынче особым шиком в Гаване считается свадьба на длинном, как такса, лимузине, прокат которого стоит больше полусотни долларов в час. Профсоюзная газета «Трабахадорес» даже опубликовала специальную статью, в которой подвергла резкой критике тех, кто готов бросать деньги на ветер ради собственного тщеславия и «новой долларовой мечты» в виде лимузина для невесты.

Вообще в последнее время на страницах официальной прессы все чаще стали клеймить «идеологическую мягкотелость». И все же... кубинец с долларами в кармане стал предпочитать, чтобы его называли господином.

**Игорь ВАРЛАМОВ**

## Чубайс продолжает борьбу за кредиты



Представитель президента РФ по связям с международными финансовыми организациями Анатолий Чубайс, уже вторую неделю занимается выбиванием стабилизационных кредитов для России.

Выступая в прямом эфире канала НТВ, А.Чубайс отметил, что в США идет жесточайшая политическая борьба по поводу предоставления кредита России. *«В стране два четких лагеря: один возглавляет президент Билл Клинтон, который выступает за поддержку России и считает, что развивающаяся Россия — это благо и для России, и для Америки. А другой лагерь — мощнейший лагерь с влиятельнейшими конгрессменами, специально хорошо оплаченными журналистами, профессионально ежедневно занимающимися доказательством того, что России категорически нельзя помогать».*

**Б.П.**

# орла и зайца

### От искреннего футбола к искренней политике

В годы своего премьерства этот противоестественный акт пытался совершить Вячеслав Кебич, а ныне его последователи во множестве обнаружились по обе стороны российско-белорусской границы. Она, кстати, существует реально, но с географией имеет мало общего. Скорее всего эта граница — между прошлым и будущим, существующая в сознании каждого из нас. А значит в политике и экономике прежде всего. Вернее так: это раздвоение сознания, предопределяющее достаточно шизофренические подходы к политике.

Не знаю как кто, а я, например, устал и от инфляции, и от интеграции, которая то ли будет, то ли нет, а если будет — то какая и для чего. Короче, хотелось бы знать, кто кого стремится обхитрить и за чей счет. Ведь относительная стабильность российского рубля, единственный, кстати, пример вполне очевидного успеха реформ, достигнута за счет жестких финансовых мер, в результате которых банкротами стали целые отрасли экономики, огромных размеров достигли долги государства населению и предприятий работникам. И только благодаря этому теплится надежда на то, что экономическая система в России приобрела какую-то устойчивость и страна сможет развиваться независимо от того, кто станет ее следующим президентом.

В Беларуси все иначе. У нас, если судить по внешним признакам, никто не обанкротился. Даже «Гомсельмаш», объемы производства на котором снизились за эти годы в 10 раз, дымит трубами и выплачивает оставшимся в цехах рабочим мизерную зарплату. Правда, регулярно. В целом это характерно и для других отраслей и предприятий, включая бюджетников. Не платят только колхозникам, так им почти нигде не платят и почти никогда не платили. Зато пенсионеры свои 20-30 долларов, в пересчете по рыночному курсу, получают регулярно.

Вообще-то пресловутая белорусская толерантность сродни хитрости. Только этим можно объяснить, допустим, появление у нас «искреннего футбола» (правда, придумал его уроженец Коломны Эдуард Малофеев) и, возможно, столь же «искренней» политической игры в исполнении Александра Лукашенко. Примечательно, что и то и другое находило и находит сочувствие и поддержку в Москве, но напрочь отметалось и отметается в Киеве. Там всегда собственных хитрецов было в достатке, а в спорте, как и в политике прежде всего ценятся интересы и результат.

### Кому это надо?

Когда Петр Прокопович, бывший руководитель Брестского облсельхозстроя, бывший вице-премьер и архитектор белорусской валютной политики стал председателем Нацбанка РБ, он мог с полным правом сказать о «зайчике»: я сделал с ним, что хотел!

А что хотел Прокопович? Он хотел, чтобы в нашей рыночно-социалистической стране деньги были у всех. А поскольку он путает их с дензнаками, то делается все достаточно просто: включался печатный станок и... Дальше, за «зайца» уже никто и ломаного гроша не даст. Сегодня, например, мало кто помнит, что до «деноминации» 1994 года сотня у нас считалась тысячей, а рубль («заяц») — десяткой.

Специалисты насчитывают до пяти обменных курсов, по которым котируется белорусский рубль. Они все больше расходятся между собой и все больше отстают от курса черного рынка, на котором валюта только и продается, а на остальных перераспределяется. В этих условиях можно, конечно, говорить и об объединении валютных систем, и о создании общей денежной единицы, но только за счет более твердой валюты — российского рубля. Но в этом случае окажется, что российская сторона свои особые отношения с Беларусью и ее экономические чудеса вынуждена будет оплатить из собственного кармана. А денег белорусам нужно много, что делает перспективу превращения орла в мокрую курицу вполне очевидной.

Сегодня среднеоплачиваемый россиянин по приезду в Минск чувствует себя если не Крезом, то человеком не бедным, ибо имеет в кармане валюту, на которую можно купить все и задешево. В этом смысле для него границ на самом деле не существует, и он у нас вполне желанный гость. Иное дело белорус, которому, кроме набитого «зайчиками» кармана и славянского патриотизма, предъявить нечего. А коль настоящих денег нет, то и Смоленск становится дальним зарубежьем.

До сих пор экономическая политика Беларуси строилась на принципах, противоположных российским. В той степени, в какой Россия открывалась миру, Беларусь самоизолировалась, ее отношения с другими странами приобрели почти исключительно натуральный характер. И сегодня, если отбросить политическую шелуху, Беларусь следует считать не лидером интеграции, о чем твердят все и повсюду, а самым слабым ее звеном, если не тормозом. Такой выбор сделало наше политическое руководство, ожидая, что он будет оплачен Кремлем во имя высших интересов.

Поверит ли Москва в чистоту помыслов? Скорее всего нет: финансировать РБ, в случае чего, станут по остаточному принципу, наравне с Чукоткой или Бурятией...

## У Віцебску чакаюць Пугачову

**Створаны па загаду прэзідэнта Лукашэнкі аргкамітэт пачаў падрыхтоўку да чарговага фестывалю шлягераў у Віцебску.**

З гэтага года ён будзе мець новую назву — «Славянскі базар у Віцебску». Фінансаваць фестываль збіраюцца Мінск і Масква. Плануецца выдзеліць каля 9 мільёнаў новых расійскіх рублёў. На славянскае гулянне ў Віцебск запрошаныя такія зоркі расійскай эстрады, як Ала Пугачова з Філіпам Кіркоравым, Міхаіл Шуфуцінскі, Леў Лешчанка і іншыя. Правесці фестываль аргкамітэт збіраецца з 21 па 28 ліпеня.

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

## Міліцыя весяліла гараджан

**У мінулую суботу ў Гродне адбыўся фестываль міліцэйскай мастацкай самадзейнасці.**

Самадзейнікі з усіх райаддзелаў, а таксама, з турмы і двух калоніяў весялілі публіку на трох вулічных пляцоўках. А каб гараджане ўсё ж не забываліся, што перад імі ахоўнікі парадку, між канцэртамі паказвалі свае баявыя здольнасці амонаўцы і дрэсіроўшчыкі службовых сабак.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Чый опій?

**Пяць пластыкавых бутэлек з падазронай вадкасцю знайшлі супрацоўнікі міліцыі ля пад'езда жылога дома ў Мазыры.**

У бутэльках аказаўся настой опію. Каму належыць гэты наркотык і для каго быў падрыхтаваны — высвятляе следства.

**У.В.**

## Калінкавічы ставяць рэкорд

**У Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці жывуць цікавыя людзі — яны амаль не мыюцца.**

Спецыялісты Калінкавіцкага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі правялі абследаванне і высветлілі, што ў лазню ходзяць толькі 31% жыхароў раёна. Зрэшты, яно і не дзіўна: з 69 лазняў працуюць усяго 24, дый тыя патрабуюць рамонту. Затое ёсць статыстычны паказчык, па якім Калінкавічы заўсёды стаяць на самым пачатку спісу, — гэта педыкулёз. Нідзе няма столькі вошай, як у Калінкавіцкім раёне, але ж ганарыцца тут яўна няма чым.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



*3 ліпеня. Па галоўнай вуліцы — з партрэтам!*

# Менш амбіцый, больш канцэртаў

**Свята Мінска і прэзідэнцкі «дзень рэспублікі» 3 ліпеня будуць на гэты раз не такімі маштабнымі і пампезнымі, як леташняе шоу. Эканамічныя праблемы істотна падкарэктавалі планы ўладаў. І ўсё ж на свята пойдзе даволі значная сума.**

### Ліхтарыкі і прыбіральні

Дакладны кошт мерапрыемстваў прадстаўнікі гарадскіх уладаў назваць адмовіліся. Вядома толькі, што на так званыя «культурныя мерапрыемствы» выдзяляецца 2,5 млрд. рублёў. Грошы возьмуць з гарадскога і рэспубліканскага бюджэтаў, так што за сталічныя радасці заплаціць уся краіна. Застаецца спадзявацца, што бюджэтныя выдаткі не будуць вельмі вялікія і не будзе як у Маладзечне, дзе правядзенне традыцыйнага фэсту беларускай песні ўдарыла па бюджэтніках затрымкай зарплаты на некалькі тыдняў.

Падрыхтоўка да свята ўжо пачалася — на вуліцах Мінска кладуць асфальт, фарбуюць фасады, укручваюць лямпачкі ў вулічныя ліхтары і г.д. Прадпрыемствы грамадскага харчавання рыхтуюцца забяспечыць сытасць. Але больш за ўсё айцоў горада хвалюе не ежа і выпіўка, а «ліквідацыя наступстваў масавага спажывання ў грамадскіх месцах» гэтай самай ежы і выпіўкі. Плануецца закупіць дадатковыя кантэйнеры для смецця і мабілізаваць усе пераносныя прыбіральні, якія толькі ёсць у горадзе.

### Парады, шэсці, канцэрты

Святкаваць сталіца будзе 4 дні — з 2 да 5 ліпеня. 2 ліпеня ў 16:30 па старой савецкай традыцыі пачальства будзе ўскладаць вянкі да манумента на пляцы Перамогі. У 17:00 пачнецца святочны сход і канцэрт у Оперным тэатры. 3 ліпеня будзе багатае на розныя мерапрыемствы, перш за ўсё на папулярныя ў 30-я гады маршы і шэсці. З 10 да 12 гадзінаў на плошчы Незалежнасці адбудзецца ваенны парад, а ўслед за баявымі машынамі бадзёра пройдуць спартсмены. Аналагічныя мерапрыемствы, толькі без ваенных, будуць і ў мікраёнах. Пасля гэтага асноўны канцэрт: з 12 да 19 гадзінаў на Кастрычніцкай плошчы будуць выступаць галоўныя музычныя калектывы краіны.

Увогуле ж нас чакае шмат канцэртаў, дзе гледачы пабачаць адборныя сілы беларускай эстрады. Каля Палаца спорту адбудзецца тэатралізаванае мерапрыемства «Слаўлю цябе, Беларусь». Артысты будуць славіць Беларусь за грошы беларусаў з 15 да 16 гадзінаў, а потым пройдуцца святочным марш-парадам у накірунку пляца Перамогі, на жалобны мітынг-рэквіем «Помнім ваш подзвіг».

З 19:00 да 20:30 на Кастрычніцкай плошчы мінчанаў будзе цешыць былая мінчанка, а цяпер расійская спявачка Алёна Свірыдава. Пасля яе выступу да 23:00 будзе маладзёжная дыскатэка, куды, зрэшты, запрашаюць і людзей сталага ўзросту.

А ў 23:00 чакаецца святочны салют. Страляць будуць у некалькіх месцах — на праспекце Машэрава, на вуліцы Прытыцкага, каля кінатэатра «Бярэсце», на стадыёнах трактарнага завода і ваеннага гарадка «Уручча». Гэта павінна адбіць у мінчанаў жаданне шчаміцца сярод ночы ў цэнтр горада, каб паглядзець феерверк.

Афіцыйна свята горада распачнецца 4 ліпеня — з 11:00 да 13:00 на Кастрычніцкай плошчы адбудзецца выступ самадзейных калектываў Мінска. З 14:00 да 18:00 раённыя калектывы зменяць «майстры мастацтва Беларусі». Пасля «майстроў» чакаюцца артысты маладзёжнай эстрады. І нарэшце, з 21:45 да 24:00 — святочны выступ канцэртнага аркестра пад кіраваннем Міхаіла Фінберга.

Для тых, хто не хоча канцэртаў, каля Палаца спорту з 11 гадзінаў пачнецца традыцыйнае свята «Смага-98» і кірмаш. Змагацца са смагай мінчукам дапамогуць 13 беларускіх піўзаводаў. Для тых, у каго гэтая барацьба не адбярэ апошнія сілы, будзе канцэрт «Мінскі вечар». Скончыцца ж дзень банальна — святочным феерверкам каля Палаца спорту.

5 ліпеня — чарговыя канцэрты. З 11:00 да 14:00 прыхільнікі беларускага, але далёкага ад аўтэнтычнасці фальклору пабачаць каля Палаца спорту (Беларускія падворкі). У 15 гадзінаў яго зменіць гала-канцэрт лаўрэатаў беларускага фестывалю «Беларусь — мая песня».

Калі ж канцэрты не вабяць, можна 5 ліпеня паехаць на стадыён «Зара» пасёлка Баравая, дзе адбудзецца ваенна-паветраное свята (з 11:00). Лётаць над стадыёнам будуць парашутысты, планеры, спартыўныя самалёты ды рэактыўныя знішчальнікі. Спадзяемся, што не адначасова.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Даты і лёсы

## 30 чэрвеня

**1905.** Царскія войскі расстралялі дэманстрацыю сялянаў у вёсцы Кішчыцы (Шклоўскі раён): загінулі 8, былі параненыя 15 чалавек.

**1946.** Рэферэндум у Польшчы зацвердзіў новыя межы з Германіяй і СССР.

**1956.** ЦК КПСС прыняў вядомую пастанову «Пра пераадоленне культу асобы і ягоных наступстваў». Пачалася рэабілітацыя ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. З 1956 па 1962 г. у Беларусі былі рэабілітаваныя 29.012 чалавек, у тым ліку В.Кнорын, М.Гікала, М.Галадзед, А.Крыніцкі, Е.Убарэвіч, В.Шаранговіч. Новая хваля рэабілітацый пачалася ў эпоху перабудовы: да сярэдзіны 1993 г. у Беларусі былі рэабілітаваныя ўжо 130 тыс. чалавек.

**1966.** Нарадзіўся знакаміты чарнаскуры баксёр Майк Тайсан. Ужо ў 20 гадоў ён здабыў тытул чэмпіёна свету ў цяжкай вазе. Вельмі хуткі ў рухах, Тайсан накаўціраваў амаль усіх прэтэндэнтаў на ягоны тытул ужо ў першыя хвіліны бою. Пасля некалькіх гадоў турэмнага зняволення за сексуальныя дамагальніцтвы Тайсан быў вярнуўся на рынг, але ў 1996 г. быў дыскваліфікаваны за тое, што падчас матча-рэваншу за чэмпіёнскі тытул адкусіў свайму суперніку Холфілду кавалак вуха.

**1971.** Пасля рэкорднага 24-дзённага палёту падчас вяртання на Зямлю загінулі савецкія касманаўты Г.Дабравольскі, У.Волкаў і В.Пацаеў, бо ў верхніх слаях атмасферы карабель разгерметызаваўся.

## 1 ліпеня

**1812.** Напалеон Банапарт дэклараваў аднаўленне Вялікага княства Літоўскага на тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губерняў і Беластоцкай вобласці. Старшынём урада быў прызначаны былы маршалак ВКЛ С.Солтан.

**1838.** Чарлз Дарвін прачытаў у Лондане першую лекцыю па сваёй тэорыі эвалюцыі біялагічных відаў.

**1910.** У Віцебску быў заснаваны настаўніцкі інстытут (з 1918 г. — педагагічны). У 1933 г. на базе мінскіх хіміка-тэхналагічнага, будаўнічага, энергетычнага, тарфянога і харчовага інстытутаў быў створаны Беларускі політэхнічны (цяпер БДПА).

**1941.** Тэлегледачы ўбачылі першы рэкламны ролік. Паказалі яго на канале *WNBT* у Нью-Йорку, аўдыторыя складала толькі 4.700 чалавек. Ролік, паказ якога каштаваў рэкламадаўцам 9 долараў, доўжыўся 20 секундаў і распавядаў пра новыя мадэлі гадзіннікаў фірмы *Bulova*.

**1942.** У адзін дзень у Маскве пахавалі Янку Купалу, а ў акупаваным Мінску — ягоную маці Бянігну Іванаўну Луцэвіч. Кажуць, што матчына сэрца атрымала вестку ад неба пра гвалтоўную смерць сына.

**1961.** Нарадзілася лэдзі Дзіяна Спенсер, брытанская прынцэса. У гэты ж дзень у 1969 г. яе будучы муж прынц Чарльз быў абвешчаны спадкаемцам брытанскага трона.

## 2 ліпеня

**1388.** Вялікі князь Вітаўт выдаў грамату аб прывілеях брэсцкім габрэям. Гэта не толькі першая пісьмовая згадка пра габрэяў на тэрыторыі Беларусі, але і выдатны помнік гісторыі права. Літоўцы і да сёння лічаць гэты прывілей пачаткам літоўскай юрыспрудэнцыі.

**1788.** Памёр французскі філосаф Жан-Жак Русо, аўтар лозунга ўсіх рэвалюцыяў Новага часу «Свабода, Роўнасць, Братэрства!»

**1900.** У Германіі над Канстанцкім возерам узняўся ў паветра першы дырыжабль.

**1957.** У Мінску прайшоў Усебеларускі фестываль моладзі, у якім узялі ўдзел больш як 20 тыс. чалавек. У праграме былі разнастайныя конкурсы, канцэрты, спартовыя спаборніцтвы, сустрэчы з ветэранамі і нават шэсце з паходнямі. Удзельнікі фестывалю заклікалі беларускую моладзь вылучыць 11 тыс. добраахвотнікаў для ўдзелу ў жніве на цаліне.

**1951.** Падчас буйнейшай у амерыканскай гісторыі паводкі ў штатах Канзас і Місуры 41 чалавек загінуў, 200 тыс. засталіся без жытла.

**1961.** Застрэліўся цяжка хворы амерыканскі пісьменнік Эрнст Хемінгуэй. У гэты ж дзень у 1977 г. ад невядомай інфекцыйнай хваробы памёр яшчэ адзін лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Уладзімір Набокаў.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**ФУТБОЛ**

# Испания плачет, Дания торжествует

Сегодня поздно вечером из 32 национальных команд, начинавших три недели назад борьбу в финальной стадии чемпионата мира по футболу, останется лишь 8.

Половина отсеялась после завершения групповых турниров, заключительные матчи которых принесли несколько неожиданных результатов. Главные претенденты на мировой трон — бразильцы — уступили норвежцам (1:2), но это никак не отразилось на их лидерском положении. У испанцев — обратная картина: несмотря на разгром, учиненный ими болгарам (6:1!), в число участников 1/8 финала они не попали. Поражение от Нигерии и ничья с Парагваем «потянули испанскую армаду ко дну». Футболисты с Пиренейского полуострова рыдали как дети, у которых отняли любимую игрушку, а в Испании в унисон с ними глотали слёзы миллионы болельщиков, в том числе король Хуан Карлос. Это было похоже на национальную трагедию.

И все же в 1/8 финала в основном пробились сборные, чей успех прогнозировался заранее. И только Парагвай там не ждали.

Попытаемся заключить в условную таблицу результаты команд, прошедших в следующий этап.

| Сборные | мячи | очки |
|---|---|---|
| 1. Франция | 9-1 | 9 |
| 2. Аргентина | 7-0 | 9 |
| 3. Италия | 7-3 | 7 |
| 4. Германия | 6-2 | 7 |
| 5-6. Югославия | 4-2 | 7 |
| 5-6. Румыния | 4-2 | 7 |
| 7. Бразилия | 6-3 | 6 |
| 8. Англия | 5-2 | 6 |
| 9. Хорватия | 4-2 | 6 |
| 10. Нигерия | 5-5 | 6 |
| 11. Голландия | 7-2 | 5 |
| 12. Мексика | 7-5 | 5 |
| 13. Парагвай | 3-1 | 5 |
| 14. Норвегия | 5-4 | 5 |
| 15. Дания | 3-3 | 4 |
| 16. Чили | 4-4 | 3 |

Первые 4 матча 1/8 финала принесли много голов и достаточно сюрпризов. Сначала итальянцы методично переиграли норвежцев — 1:0, а бразильцы не оставили никаких шансов чилийцам — 4:1 (по 2 гола на счету Роналдо и Сезара Сампайо). Хозяева чемпионата — французы — встретили жесткое сопротивление парагвайцев и оказались к этому не готовы. В отсутствие дисквалифицированного на 2 игры диспетчера сборной Зидана французы просто не знали, что делать с мячом.

Лишь за несколько минут до окончания дополнительного времени удар Лорана Блана позволил хозяевам избежать послематчевой лотереи с пенальти. В четвертьфинале Франция встретится с Италией.

Соперником Бразилии станет команда Дании, сенсационно разгромившая могильщика испанцев Нигерию — 4:1. Лучшими бомбардирами турнира пока являются Кристиан Вьери (Италия) — 5 мячей, Габриэль Батистута (Аргентина) и Марсело Салас (Чили) — по 4.

**Семен ПЛОЦ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1207 Нумар падпісаны ў друк 29.06.98 (15:00) Наклад — 18.560